Цана асобнага нумару 10 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 40. Вільня, Субота 27 Лістападу 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Адрэс Рэдакцыі й Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4). Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята. Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

**Падпіска:** на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.

**Цана абвестак:** на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку у ваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Легальнасьць партыяў.

У сувязі з разростам „Грамады“ польскія правыя партыі падалі ў Сойме, на апошнім паседжаньні, прапазыцыю аб разьвязаньні Раб.-С. Грамады. Дзеля таго, што польскі Сойм, у сваей пераважнай большасьці, зьяўляецца абаранiцелям інтэрэсаў багатых уласьнікаў, апрача таго, гэтая большасьць увесь час будуе нацыянальную польскую дзяржаву, у якой меншасьці павінны быць грамадзянамі без правоў (але з цяжарнымі абавязкамі), — можна спадзявацца яе адумысловага перасьледаваньня. Над гэтай справай нам беларусам, незалежнікам нельга прайсьці моўчкі; павінны мы выявіць свае становішча.

Асновай усіх дэмократычных гаспадарстваў зьяўляецца вольнасьць палітычных пераконаньняй як адзінак, так і грамадаў—партыяў. Чым дзяржава ёсьць больш дэмократычнай, тым больш пасоўваецца гэтая політычная свабода. У сапраўды дэмократычных гаспадарствах усе партыі бываюць легальнымі, на'т комуністычная. Польшча, якая аб сваім дэмократызме ўсюды пяе, калі ня хоча йсьці ў процьму дэспатызму й самаўладства цяперашняй шляхты-бюрократыі, павінна ўшанаваць здабычы заходняэўрапэйскай дэмократыі. У іншым выпадку чакае яе доля, якая ўжо спаткала не адно бюрократычнае гаспадарства — развал. У дэмократычных дзяржавах найвышэйшай уладай зьяўляецца сам народ; улада апіраецца на ўсё грамадзянства. Калі ўлада згубіць сувязь з грамадзянствам, калі пачне акцыю проціў вялікіх частак гэтага грамадзянства, няўхільна чакае гэткую ўладу той ці іншы канец.

У Польшчы якраз відзім такое зьявішча; польскія ўлады ў працягу ўжо некалькі гадоў вядуць працу проціў нацыянальных меншасьцяў, проціў 14 мільёнаў насяленьня: Беларусаў, Украінцаў, Ліцьвіноў і Немцаў.

Акцыя проціў Грамады паднята польскімі партыямі між іншым і дзеля таго, што яна мае назоў беларускай грамады, бо інакш немагчыма вытлумачыць гэтай акцыі. Чаму польскія партыі не падалі прапазыцыі аб разьвязаньні „Niezależnej Partji Chłopskiej“? Гэта-ж партыя Ваявудзкага тое самае, што „Грамада“ Тарашкевіча! Ваявудзкі кіруе, як адной, так і другой! Дык бачым, што ўсялякі назоў беларускай працы ненадабаецца польскім, уплываючым на ўладу, колам. Гэта нас ня дзівіць, бо гэта-ж ня першы і не апошні факт варожых адносінаў да беларускага руху. Стоючы на грунце поўнага дэмократызму, стаім за легальнасьць усіх політычных партыяў. Толькі тады, калі ўсе партыі будуць легальнымі, грамадзянства безстаронна можа ацаніць вартасьць кожнай з іх і свабодна гуртавацца паводле сваіх пераканаваньняў. Выказываючыся проціў разьвязаньня „Грамады“, зусім не баронім гэтай партыі. Наадварот, працу „Грамады“ лічым вельмі шкоднай, бо яна хоча наш народ вызваліць з аднаго ярма, каб пасьля аддаць у другое ярмо.

Але беларускі народ сам зразумее дзе яму лепш, хто яго бароніць і за кім ён павінен ісьці.

Незалежна ад акцыі „Грамады“, якая мае спэцыфічны, ня наш сялянскі, характар, нацыянальнае усьведамленьне вёскі йдзе сваім нармальным шляхам.

*А. Саюзьнік.*

За мову гэтага аўтара Рэдакцыя не адказуе.

*Рэд. „Сял. Нівы.*

## Трымаймася свайго!

Калі адзін чалавек у сваім жыцьцю можа яшчэ абыйсьціся бяз веры, звычаю, песьні музыкі і г. д., то агулам народы жыць бяз гэтага ня могуць. Гэта іхняя неад'емная духовая страва. Усе народы, якія толькі існавалі і існуюць на зямной кулі, мелі і маюць сваё народнае творства, гэта значыцца, абычай, песьню, музыку, легенду, прыказку, жарт. Што край то й абычай, кажа наша народныя прыказка. І праўда, трудна знайсьці на зямлі, такое племя, народ, каторы жыў-бы бяз гэтай духовай ежы. Розьніца толькі ў тым, што ў культурнага Француза, яна акрашана сучаснаю культураю, а ў Самаеда, жыхара непраходнай тундры, у первабытным стане. Але ўсе гэтыя труднасьці, немагчымасьці губяць сваю сілу, як толькі пераступяць парог нашае Бацькаўшчыны. У нас усё магчымае. Ня думайце, крый Божа, што ў нас жывуць людзі бяз веры, звычаю, абычаю песьні, не карыстаюцца легендаю, прыказкай, жартам. Не, усё гэта ў нас у Беларусі вельмі любяць і шануюць, але, на жаль, не свае роднае, беларускае, а чужацкае, прыкладам польскае або расейскае.

Так у нас думаюць, што маліцца Богу пасвойму, у сваёй беларускай мове ня варта. Усе роўна, кажуць, яна да Бога ня дойдзе, затое, калі памолісся папольску, або парасейску, то ласка Божая, сама спадзе на галаву.

Спаўняць свой звычай, абычай, таксама, кажуць, нягожа, бо ён „мужыцкі“, а вось лепей, кажуць, бяры, ды абхадзіся у сваём жыцьці, абычаем польскім, расейскім, турэцкім, бо гэта шляхотныя, культурныя. Песьні пяяць, скакаць у нас любяць, болей чым дзе, асабліва нашая моладзь.

Але трэба толькі паслухаць гэтых песьняў, пабачыць скокаў і сэрца напоўніцца сумам, нудою. Пачуем песьню польскую, расейскую, хінскаю, толькі не беларускую. Будзеце бачыць навамодныя вальсы, полькі, а беларускага нацыянальнага скоку вы ня ўгледзіце.

Гэта смутнае зьявішча! Тады, калі наш абычай, напрыклад, хадзіць з валочобным на Вялікдзень, шчадраваць на Каляды, спраўляць зажынкі, дажынкі, дзяды, вясельныя абычаі і інш, нічым ня горшы за якісь там польскі ці расейскі.

Чым нашая песьня, горшая за іншую? Хіба тым, што ў нашай песьні болей кажацца аб долі гаротнага селяніна, чым, аб салаўях, каханьню. Наадварот нашая песьня на апошняй выстаўцэ ў Маскве, заваявала шмат сымпатыі з боку Расейцаў, Палякоў і інш. Чым нашая музыка, дуда, цымбалы, йскрыпка горшая за расейскую балалайку, а наша „Лявоніха“ за навамодны вальс? Ды нічым, болей чуецца вясёласьці жыцьця, славянскай прасьціні. Што-ж датычыцца беларускай прыказкі, легенды, жарту, то гэтага вы зусім не пачуеце, хаця-ж да вашага вуха й будуць далятаць анэктоды, жарты, узятыя із расейскага або польскага жыцьця. Зьбіраць--жа й запісаваць гэтае народнае творства, недакончаную працу нашых дзядоў і прашчураў і гэткім парадкам улажыць у гэты скарб і сваю долю працы, рэдка знайдзеце ахвотніка.

Вось якія істнуюць пагляды ў Беларусаў, на ўсе сваё роднае, беларускае! Асабліва гэта прыкметна сярод нашае інтэлігэнцыі, мяшчанства, і ў некаторых багатшых сялянаў. Гэтак адносіцца да свайго нягодна; чужніку: Расейцу, Паляку, Ліцьвіну, Латышу, усё гэта ярка кідаецца ў вочы й дае ім прычыну крычэць, што Беларусоў няма.

Вось і гэта мае прымусіць нас Беларусоў адносіцца да ўсяго свайго роднага, беларускага ўважней, з пашанаю, ня чурацца сваіх абычаяў, песьняў, а спаўняць, пяяць усюды, дзе-бы нас доля ня кінула. Гэта трэба рабіць дзеля таго, што ў гэтым нашая нацыянальная сіла, нашае шчасьце, багацьце, нашае незалежнасьць. Народ, каторы чураецца сваіх звычаеў, абычаеў, песьні, або абыходзецца чужым, пазычаным, ня варт добрага слова, кожны глядзіць на яго з пагардаю. Мы-жа Беларусы маем усё сваё, пазычаць ад іншых народаў нам няма чаго, дык наш абавязак ёсьць трымацца свайго роднага, беларускага.

Можна карыстацца з эўропэйскай культуры, ісьці разам з прогрэсам і разам з тым высака трымаць свае нацыянальнае імя, даражыць сваім абычаем, песьняю, музыкай, прыказкаю, памятуючы, што гэта найвялікшы знак нашага нацыянальнага існаваньня. Дык трымаймася свайго!

*К. Матусэвіч.*

* * *

Стань
І глянь:
Вось па небе бліскучая зорка плыве,
Зорка ўкутана цемрай... цемра гоне яе..
І здаецца бясконца цемра зорку заб'е;
Згасе зорчын агоньчык і ня будзе яе.
Ты аднак
Ляж наўзнак
І уцем свае вочы у выш,
Спраўдзь, ці добра глядзіш,
Ці ня склеіў вачэй табе сон,
Бо да нас так прысвойніўся ён,
Што на'т сонца у дзень ня відаць...
Глядзі ў выш і старайся ня спаць.
Зоркі крок,
З боку ў бок,
Ты глядзі
І сьлядзі,
Як яскрава ў ночы б'е зорачкі сьвет.
Пора цемру глыбока яе вагняцвет.
Цэлу ноч
Ня сплюшч воч,
Бо ураньні ня будзеш на зорку глядзець,
Зорка зь цемраю разам навекі памрэць...
Ты аб зорцы ўспамін захавай
І ноч досьледу ўсьцяж спамінай,
А паверыць гэтак будзе найлягчэй табе,
Што агоньчык зоркі яркі толькі ў ночнай
[цьме.

7-X-26. *Фр. Грышкевіч.*

